# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 15 (114)

Vilnia, 15 Listapada 1937 h.

Hod IX.

UVAHA! UVAHA!

20-ha listapada sioleta adbudziecca losavańnie

## cennych premijaŭ dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

**Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.**

Administracyja „šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnašć. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać da 15.XI.37, padpisku na „šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złoty).

### Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя (Беларускай) Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 10 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A ŭ lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

**Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „šlachu Moładzi" budzie strymana!**

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*


# „Шлях Моладзі"

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

**Выходзіць: 1-га і 15-га кожнага месяца.**

Падпіска на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 75 гр., на паўгода — 1.50 зл., на цэлы год — 2 зл. і 50 гр.
Заграніцу — ўдвая даражэй.

ЦЭНЫ АБВЕСТАК: 1/1 бачына 50 зл., 1/2—25 зл., 1/4—15 зл., 1/8 — 8 зл

**Адрыс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2. [(ul. Zawalna 1—2).
№ kartateki przekaz. razachnk. 59.

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, 15 Лістапада 1937 г. № 15 (114).

*Міхась Матара*

* * *

Сухавеем рана,
ў садзе ля паркану
стану ў лебядзе.

Гляну як на клёны
жоўты і сьцюдзёны
восень сум кладзе.

Там вось, каля брамы,
сум-жа гэты самы
на плаце павіс,

каля вокан з хмелем
шэпчыць штось нясьмела —
абняўшы карніз.

Сэрца маё, сэрца,
ты-ж ў грудзёх, ня ў клетцы,
біць крылом пакінь.

Гэта раз ня першы
на душу і вершы
сум кладзе знакі.

Таболы. восень. 1937 г.

*Фабіян Вайцілёнак*

## Восень

Хмары цёмныя павісьлі
над маёю галавой,
сонца вязьне ў шэрай кісьлі
і ня сьвеціць як вясной.

Лісты зжоўклыя апалі,
як з букету красак — дрэў...
птушкі ў вырай паўцякалі
забіраючы свой сьпеў.

Сумна, грыкра, глуш нямая,
ўсё замёрла, як у сьне
думка жалем пакрывае
успаміны аб вясьне.

Б'е ў цымбалы, дождж бурболе
па закураным вакне...
сэрца ные, як ў нядолі
і так сумна — сумна мне...

Варшава, X.37 г.

# Урачыстасьці ў чэсьць Ядвігіна Ш.

*(У 15-тыя ўгодкі Ягонай сьмерці)*

Адкрыцьцё і пасьвячэньне памятніка беларускаму пісьменьніку і паэту Ядвігіну Ш. — Антону Лявіцкаму сталася агульна-беларускім сьвятам у Вільні. Пачалося яно, згодна з уложанай раней праграмай, 30.X сёл. у касьцеле сьв. Мікалая, дзе раніцай Кс. Ад. Станкевіч адправіў урачыстае жалобнае набажэнства за душу пісьменьніка. Ня гледзячы на раньні час і на будні дзень, на набажэнства прыйшло многа бел. моладзі, а таксама прадстаўнікі старэйшага грамадзянства.

Адкрыцьцё і пасьвячэньне памятніка адбылося 2-га лістапада (на Задушкі). Урачыстасьць гэту стараліся ўшанаваць ня толькі віленскія беларусы, але і беларусы з вёскі, і дзеля гэтага былі і такія, што папрыяжджалі здалёк: з-пад Валожына, Глыбокага, Ашмяны і Сьвянцян. (Учасьнік сьвяткаваньня з Сьвянцяншчыны — малады супрацоўнік „Шляху Моладзі“ — грам. Я. Ляхавіч прыехаў у Вільню на ровары, праяжджаючы ў працягу дня больш 120 клм.). Памяталі аб урачыстасьцях у чэсьць Ядвігіна Ш. і беларускія студэнты ў Варшаве, каторыя сабралі і прыслалі на памятнік Ядвігіна Ш. 6 зл. і 60 гр., перасылаючы адначасна пісьмо, што яны лучацца разам з усім бел. грамадзянствам і аддаюць чэсьць свайму пісьменьніку і барацьбіту.

А 16-тай гадзіне, 2 лістапада, над магілай Ядвігіна Ш. на могілках Роса, пры закрытым ільнянай тканінай памятніку, сабралася вялікая грамада беларускага грамадзянства. Былі інтэлігенты, прадстаўнікі вёскі, работнікі, студэнты, вучні і моладзь агулам. Перад адкрыцьцём памятніка Рэд. Калегія „Шляху Моладзі“ злажыла вянок з нацыянальнай беларускай бела-чырвона-белай шарфай з надпісам: „Ядвігіну Ш. — „Шлях Моладзі“. Зараз пасьля гэтага злажыла вянок Ядвігіну Ш. дэлегацыя вучнёўскае моладзі Беларускай Гімназіі, а прадстаўнікі Бел. Студэнцкага Саюзу ў Вільні прынесьлі



**Ядвігін Ш. — Антон Лявіцкі.**

вазоны жывых белых красак. Пры памятніку-ж, як ганаровая страж, сталі кіраўнікі беларускіх скаўтаў. Магілу асьвятлялі лямпіёны і сьвечкі.

Урачыстасьць адкрыцьця памятніка пачаў беларускі касьцельны хор песьняй „О Божа, Збаўца наш“. Тады прамовіў ведамы бел. дзеяч і публіцыст Кс. Адам Станкевіч. Гаварыў ён аб сіле Духа Волі, пачынаючы сваю прамову цытатай з паэмы Ядвігіна Ш.: „Дзед Завала“:

„Даўно было гэта...
Хадзіць чуткі сталі —
Аб Вялікай Волі
Ўсе заталкавалі“...

Прамова Кс. Ад. Станкевіча была прыгожая і глыбокая зьместам. Ён казаў: ...Прыйшоў на сьвет Антон Лявіцкі ў 1866 г. Ужо было два гады пасьля таго, як скончыў жыцьцё сваё на ві-

сельніцы, на Лукіскім пляцы ў Вільні, слаўны Кастусь Каліноўскі, як крывавая ахвяра, зложаная на аўтар расейскага царызму і імпэрыялізму, за волю і долю нашага краю, за волю і долю беларускага народу. Пачалася тады бязьлітасная і безаглядная рэакцыя. Запанавала атмасфэра цемры, няволі і прасьледу ўсякай вольнай думкі. І ў гэтай атмасфэры рос, вучыўся, разьвіваўся і працаваў Ядвігін Ш. Здавалася, што і ён мусіў праняцца гэтым нявольніцкім духам, стацца нявольнікам. Але не. Сіла цемры і нявольніцтва не перамагла сілы Духа Волі. Ідэалы Волі, за якія аддаў сваё жыцьцё Кастусь Каліноўскі, шырока і глыбока пайшлі ў народ Гэтыя ідэалы ўзбагацілі душу Ядвігіна Ш. і далі яму магчымасьць стаць у рады першых беларускіх адраджэнцаў, стацца адным з першых беларускіх пісьменьнікаў... — Успамінаючы сьмерць і паховіны Ядвігіна Ш. у 1922 г., калі за труной пісьменьніка йшла невялікая грамадка беларускіх дзетак і раўнюючы гэта да ўрачыстасьці 2.XI.1937 над магілай ягонай, сьцьвердзіў Кс. Адам Станкевіч найбольшы кантраст між тым, што было тады і што ёсьць сяньня, ...„што тут над магілай пісьменьніка бачым ня жменьку баязьлівых дзетак, але паважную грамаду моладзі, сьведамай сваіх беларускіх народных правоў і абавязкаў“... ...„І ніякая сучасная сапраўднасьць, што наўзавадкі йдзе з нацыянальнальнай воляй Беларускага Народу ня зможа змуціць нашай Веры, Надзеі й Любові, бо Дух Волі перамагае“...



Памятнік Ядвігіна Ш.

Пасьля памятнік быў адкрыты і пасьвячаны, а хор прапяяў жалобны марш „Разстаўся з намі“. На заканчэньне ўсе прысутныя адсьпявалі рэлігійны бел. гімн.

З магілы Ядвігіна Ш. грамада беларусаў адведала магілу другога бел. паэта, Казімера Сваяка, дзе таксама былі прапяяны беларускія рэлігійныя песьні.

Памятнік Ядвігіна Ш. абложаны кветкамі і вянкамі астаўся на доўгія часы і будзе сьведчыць аб тым, што пахаваны там беларускі пісьменьнік, аб якім памятавала і памятуе бел. грамадзянства. На шэрым беларускім граніце віднее пазалочаны надпіс:

ś. † p.
**JADVIHIN Š.**
**(Anton Lavicki)**
**Biełaruski Piśmieńnik**
**1866—1922**

*„Daŭno było ƀeta...*
*Ƈadzić čutki stali —*
*Ab Vialikaj Voli*
*Ŭsie zatałkavali“...*
*(„Dzied Zavała“).*

**Svajmu piśmieńniku — Biełarusy.**
Vilnia, 2.XI.1937.

* * *

Вечарам у той-жа дзень у залі БНА (Завальная 1) адбылася акадэмія, пасьвячаная памяці Ядвігіна Ш. На падвышэньні, сярод жывых кветак і нацыянальна-беларускіх бела-чырвона-белых сьцягоў красаваўся партрэт Ядвігіна Ш. Сярод прысутных, запоўніўшых залю, пераважна і тут моладзь — будучыня.

Адкрыў акадэмію ад імя Рэдакцыйнае Калегіі „Шляху Моладзі“ рэдактар Я. Найдзюк, які, падзякаваўшы ўсяму беларускаму грамадзянству за зложаныя ахвяры на памятнік Ядвігіна Ш. і падтрыманьне ініцыятывы „Шляху Моладзі” будовы гэтага памятніка, падчыркнуў значэньне жалобнае ўрачыстасьці ў чэсьць пісьменьніка, а таксама і ахвяраў, якія плылі ад людзей розных поглядаў і кірункаў. Прамоўца выразіў пры гэтым пажаданьне, каб беларусы лучыліся ня толькі над магілай, але ў жыцьці і барацьбе за лепшую долю Беларускага Народу і за яго найвышэйшыя нацыянальныя ідэалы. — На прапанову рэд. Я. Найдзюка, памяць Ядвігіна Ш. прысутныя ўшанавалі хвілінай цішыні.

Далей выступіў з рэфэратам мгр. Я. Шутовіч, рэдактар літаратурна-навуковага часапісу „Калосьсе“, які даволі вычэрпываюча, зручна і стройна намаляваў абраз жыцьця і творства Ядвігіна Ш., выказваючы на падставе твораў ягоны беларускі патрыятызм, народніцкасьць і дэмакратычнасьць.

На заканчэньне акадэміі адбылося чытаньне твораў Ядвігіна Ш. Вельмі добра і прыгожа чытала студ. В. Чарнэцкая („Васількі“, „Раны“, ,,Зарабляюць“, а таксама і прэлегент мгр. Я. Шутовіч, які прачытаў урывак з ,,Успамінаў“ Ядвігіна Ш. з Бутырскага вастрогу.

* * *

Усе ўрачыстасьці ў чэсьць Ядвігіна Ш. тварылі сапраўды вялікі і паважны настрой і былі доказам, што мы, Беларусы, жывём і разрастаемся. Урачыстасьцямі гэтымі і хоць скромным, але пабудаваным з дабравольных ахвяраў беларускага грамадзянства памятнікам, была аддана належная чэсьць Ядвігіну Ш. На гэта ён сапраўды заслужыў.

Ядвігін Ш. быў адным з палкіх беларускіх адраджэнцаў, адным з тых, што ахвярнай, ідэовай сваей працай папхнулі ўперад беларускае нацыянальнае жыцьцё. Ён хоць паходзіў з шляхты, радзіўся і гадаваўся ў м. Карпілаўка, каля Радашкавіч, то аднак цесна зжыўся з бел. народам, любіў яго, а пагарджаў тымі,што чураліся свае роднае мовы, беларускасьці. Ядвігін Ш. казаў, што „не загіне беларускі народ“.

Улюбленым жанрам (формай) творчасьці Ядвігіна Ш. зьяўляліся дробныя апавяданьні, пераважна гумарыстычнага характару. Сюжэты да іх браў пісьменьнік з сялянскага жыцьця, якое дакладна знаў. „Ён — як кажа беларускі літаратурны крытык А. Навіна — як быццам падслухаў беларускага селяніна, пранўся духам ягоным і абразамі народнае мысьлі выяўляў народную душу. А рабіў гэта ён так добра, што ня чуецца ў яго ані фальшывых нотак, ані ненатуральнасьці... У гэтым-жа мера мастацтва... З гэтага вынікае і тая сьвежасьць апавяданьня, і шчырасьць пачуцьця, і лёгкасьць формы, і багацьце мовы, чым так цэнны творы гэтага... першага беларускага пісьменьніка-празаіка, які заўсёды будзе займаць у беларускай літаратуры адно з пачэсных месц, як мастак слова, каторы здолеў адчуць і выявіць у прозе дух беларускага народу

і беларускае прыроды" („Адбітае Жыцьцё").

Творчасьць Ядвігіна Ш. колькасна невялікая, за тое якасна багатая і сапраўды цэнная.

Ядвігін Ш. працу на беларускай адраджэнскай ніве пачаў за маладых дзён, яшчэ ў 1886-87 г., будучы студэнтам. Ён тады закладаў падваліны пад першую арганізацыю беларускае моладзі і за нелегальную працу цярпеў у Бутырскім царскім вастрозе. Дзеля гэтага моладзь асабліва павінна памятаць аб Ядвігіне Ш. і спаўняць ягоныя заклікі: „ня чурацца, не заракацца беларускага народу, а йсьці на сустрэчу яго жаданьням, яго думкам... Хай кожны сьвятлейшы чалавек ідзе паміж гэтага народу і запалівае паміж яго сьветач навукі, сьведамасьці, справядлівасьці... І толькі такіх людзей можна й шанаваць, каторыя, ня чураючыся свайго, не ўшываюцца ў чужую, прадажную скуру"...

...„Сабраўшы ўсе свае сілы — заклікаў Ядвігін Ш. у 1910 г. — ня толькі словам, але і практыкай жыцьцёвай пратоптываць адраджэнскія сьцежкі, якія назначыў час, назначыла гісторыя"...

З. Б.

## На памятнік Ядвігіна Ш. ахвяравалі:

Язэп Ляховіч 50 гр., др. В. Грышкевіч 2 зл., Ян Федаровіч 50 гр., Б. Марцікевіч 30 гр., Беларускія Студэнты ў Варшаве 6 зл. 60 гр.; Бязіменна 3 зл.; В. Т. 50 гр. Бязіменна 1 зл., Кс. В. Талочка 3 зл.

Усім ахвярадаўцам шчыра дзякуем. — *Рэд. Кал. „Шл. Мл."*

## Vilenskaja radyjostanc. i biełaruskija pieśni

Ad peŭnaha času Vilenskaja Radyjostancyja nadaje hetak zvanyja viečarynki, u jakich biezceramonna, dy biazdarna tłumačyć biełaruskija narodnyja pieśni na „język regjonalny," nie padajučy ani krynicaŭ pieśni, ni čyjej jany harmanizacyi, čaho vymahaje elementarnaja etyka. Tak napr. u niadzielu 31.X sioleta nadavanyja byli ŭ syrym pierakładzie nastupnyja biełaruskija narodnyja pieśni: „Za harami, za lasami," „Viasioła biasiedačka" i inš., a ŭ kancy prapiajana była „Zima" (vierš Jakuba Kołasa).

Nia budu tut havaryć ciapier ab metach takoj raboty i ci ich asiahnie Vilenskaja Radyjostancyja, bo biełaruskaje hramadzianstva naležna ŭžo heta acaniła, a cikavić mianie, što na takija pastupki Vilenskaje Radyjostancyi skažuć harmanizatary henych pieśniaŭ, bo Jakub Kołas za takoje „zbližeńnie" jaho vieršaŭ da makaranizmu ciotki Albinovaj da sudovaje adkaznaści Radyjostancyi paciahnuć, na žal, nia moža. Pry hetym Vilenskaj Radyjostancyi, jakaja baicca słova „biełaruskija", „biełaruski" i h. d., pry apracoŭcy viečarynak i kalečańni vieršaŭ biełaruskich paetaŭ radžu na budučyniu być krychu aścieražniej, bo moža zdarycca, što aŭtar akažacca ŭ miežach Polskaha Haspadarstva i tady budzie niepryjemnaść. Kali-ž vyjdzie takaja „štuka," jak z vieršam „Zima" Jakuba Kołasa, to ŭsio-ž-taki treba prynamsia ŭspomnić aŭtara, bo tak panočki, dalikatna kažučy, vielmi nia pryhoža.

*Radyjosłuchač.*

# Японія

Цяперашняя японска - кітайская вайна, каторая трывожыць увесь сьвет, ськіроўвае агульную ўвагу ўсіх перадусім на Японію, каторая пачала вайну. Дзеля гэтага на часе будзе крыху бліжэй пазнаёміцца з гэтай краінай.

Японія гэта край паложаны на г. зв. Далёкім Усходзе, на 4 вялікіх астравох: Гоккаідо, Гондо, Шікоку, Кіўшіў і на каля 4 тыс. акружаючых іх меншых астравох Ціхага акіяну. Займае яна 382 тыс. кв. клм. зямнога прастору. Зямля там гарыстая, багатая вульканамі, няпрыгодная да абрабляньня, але цёплы й вільготны клімат спрые да гадоўлі некаторых расьлін, як рыжу, фруктовых дрэваў, кветак і інш. Японія зьяўляецца старонкай вельмі густа заселенай: жыве ў ёй, паводле апошняй статыстыкі, 71 міл. 252 тыс. 800 жыхароў. Калі возьмем толькі абшар прыгодны да земляробства, дык на 1 кв. клм. такога абшару прыпадае ў Японіі больш 1.000 жыхароў, што пазваляе ўважаць Японію за найгусьцей заселеную краіну на зямлі.

Жыхары Японіі — японцы — народ вельмі стары, мае за сабой доўгую гістарычную мінуўшчыну. Паўстаў ён з мешаніны белага племя айнаў, што пасяліліся на японскіх астравох 6.000 гадоў таму назад, з мангольцамі і маляйцамі, каторыя на іх часта нападалі і з часам з імі зьмяшаліся. Гісторыя японцаў сваімі пачаткамі сягае V в. перад нараджэньнем Хрыста. У гэтым часе першы японскі кароль Джімм Тенно залажыў дынастыю (пануючы род), якая аж па сягоньняшні дзень валадае Японіяй. На Японію часта нападалі розныя мангольскія народы, але яна заўсёды давала ім стойкі адпор. Цікава тут адзначыць, што Японія вельмі рана саткнулася з суседнім Кітаем, з каторым сяньня ваюе, і ад яго прыняла ягонную культуру, а пасьля і рэлігію (конфуцыізм і буддызм). На працягу сваей гісторыі праходзіла Японія розныя формы нутранога ладу, як фэодалізм, вайсковую алігархію і дыктатуру. Сяньня зьяўляецца яна канстытуцыйнай манархіяй. На чале дзяржавы стаіць імпэратар, каторы ўважаецца божым патомкам і пасланцом неба на зямлі. Дзеля гэтага мае ўва ўсіх японцаў вялікую паслухмянасьць.

Аж да XVI в. Японія была амаль зусім нязнанай у Эўропе. З часам аднак пачынаюць туды наплываць эўропэйскія купцы і грабіць край, вывозячы з яго многа золата і меднай руды. Гэта змусіла японцаў у 1616 годзе замкнуць дзьверы ў свой край перад чужынцамі. Але поўная ізаляцыя (адасабненьне) ад чужынцаў яшчэ больш пагоршыла палажэньне японцаў, і ў 1853 годзе флёта амэрыканскага адмірала Перрі змусіла іх узноў адчыніць доступ у свой край чужынцам і навязаць з імі гандлёвыя зносіны. Ад гэтага часу пачынаюць японцы пераймаць эўропэйскую культуру і цывілізацыю. Вучачыся ад эўрапэйцаў, праводзяць яны ў сваім краі розныя карысныя для сябе рэформы і заводзяць лепшы парадак. Перадусім разбудоўваюць свой промысел і гандаль, і ўзмацоўваюць сваю мілітарную (ваенную) сілу, будуючы сільную флёту і павялічваючы войска. Дзякуючы гэтаму, Японія ў хуткім часе становіцца сільным гаспадарствам, каторае ў 1905 годзе патрапіла ўжо разьбіць у вайне магутнага свайго праціўніка Ра-

сею. Пасьля гэтага сіла Японіі ўсьцяж узрастала. Аднача сна рабілася ей на астравох штораз цясьней і яна выйшла на падбой контынэнту. Аружнай сілай здабывае Японія спачатку паўвостраў Корэю і згэтуль штораз далей пасоўваецца ўглыб Азіі. Ня так даўна былі мы сьведкамі, як японцы апанавалі Манджурыю, а сяньня, на нашых вачох, яны з кожным днём заваёўваюць усё большыя й большыя абшары паўночнага Кітаю. Да такога імпэрыялізму пруць японцаў іхнія жыцьцёвыя абставіны.

У Японіі большасьць насельніцтва жыве вельмі бедна. Асабліва ў надта цяжкіх варунках жыве сялянства й работнікі. Толькі 17 прац. усяе зямлі ёсьць прыгоднай да ўправы, рэшта гэта балаты, лясы, вазёры, горы і пяскі. З земляробства можа ўтрымацца найбольш 25 міл. насельніцтва. Палажэньне зямлі не пазваляе там змодэрнізаваць (уновачасьніць) мэтоды земляробскай прадукцыі. Гаспадаркі вельмі дробныя, паложаныя часта на стромкіх збочах гор, што не пазваляе на карыстаньне з земляробскіх машын. Да таго гістарычныя падзеі так злажыліся, што японскае сялянства жыве сяньня ў вялікай бядзе. Быў час, калі японцы, з нястачы прыгоднай да ўправы зямлі, агранічвалі лік нарадзінаў. Пасьля аднак, калі абарона краю і ўтрыманьне незалежнасьці вымагала якнайбольшага ліку людзей, скасавалі гэтыя агранічэньні, а зьвярнулі сваю ўвагу на развой промыслу й гандлю. Занялася гэтым перадусім сама дзяржава, пасьля аднак гандаль і промысел перайшлі ў прыватныя рукі. Сяньня ўсім японскім гандлем і промыслам кіруюць тры вялікія фірмы, каторыя, дзякуючы сваей фактычнай сіле, уплываюць такжа і на кірунак дзяржаўнай палітыкі. Хоць промысел і гандаль у Японіі разбудаваны добра, аднак налічаюць там сёлета каля 3 міл. безработных. Тыя-ж, каторыя працуюць—работнікі, падобна як і сяляне, жывуць ў горы, бо японскія капіталісты, змагаючыся з загранічнымі капіталістамі, перадусім амэрыканскімі і англійскімі, моцна іх эксплёатуюць (выкарыстываюць). Плата японскага работніка вельмі малая. За 10 гадзінную працу дастае ён менш-больш 1,50 зл. Вось-жа, агулам кажучы, перанасяленьне, малазямельле, цяжкае палажэньне сялянства і работнікаў, безрабоцьце, добра разьвіты промысел і гандаль, якія патрабуюць і многа сырца і адпаведных рынкаў збыту, канкурэнцыя японскага капіталу з загранічнымі — гэта галаўнейшыя прычыны сучаснага японскага імпэрыялізму. Японцы крывёй здабываюць сабе новыя калёнізацыйныя абшары. Галоўны наступ робяць яны на Кітай. карыстаючы з хатніх непарадкаў у ім. І хоць перамагаюць яго, то даецца ім гэта надта цяжка. У сувязі з гэтай вайной Японія выдае на збраеньне вялікія сумы грошаў. Японскі вайсковы бюджэт зьядае ўсе даходы з падаткаў, рэшту выдаткаў пакрывае Японія з пазычкаў. Апрача гэтага японскія інжыняры-хэмікі з усіх сіл стараюцца зрабіць як найбольш новых адкрыцьцяў і ўдасканаленьняў у ваенным промысьле, каб толькі падняць баявую спраўнасьць Японіі. Цікава адзначыць, што Японія прадукуе зброю ня толькі для сябе, але так-жа і для іншых дзяржаў. як Афганістан, Турэччына, а нават і для Кітаю, з якім змагаецца. Агулам, вайсковая сіла Японіі вялікая. Японскі генэрал Сато гаворыць, што Японія можа змабілізаваць 11 мільёнаў 900 тысяч жаўнераў і выслаць з гэ-

тага на фронт 3 мільёны 800 тысяч.

У сваім вайсковым наступе і калёнізацыйнай акцыі ў Кітаю, Японія пападае ў супярэчнасьць з інтарэсамі наймагутнейшых гаспадарстваў сьвету, як Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі, Англія і Саветы. Гаспадарствы гэтыя моцна ўстрывожаны апошнімі ваеннымі ўдачамі Японіі ў Кітаі і стараюцца ўстрымаць далейшы ўзрост японскага імпэрыялізму. Японцы аднак процiўдзеяць гэтаму дыплёмацкімі хітрыкамі, якіх навучыліся ад эўропэйцаў. Імкнуцца яны здабыць сабе як найбольш саюзьнікаў і ўжо маюць па сваей старане два таксама імпэрыялістычныя, фашыстаўкія эўропэйскія гаспадарствы — Нямеччыну і Італію, якія імкнуцца да вайны і аружнае барацьбы з Саветамі.

Дзеля гэтага сучасная японска-кітайская вайна моцна пагражае сусьветнаму міру.

Б. Чанук.

# Biełarusy i polskaja moładź

*(Zaŭvahi našaha varšaŭskaha supracoŭnika).*

Majučy mahčymašć pryhladacca da žyćcia polskaje, a taksama i biełaruskaje moładzi ŭ Varšavie, chaču źviarnuć adnu ŭvahu, na adnosiny maładych Palakoŭ da roznych prajavaŭ kulturnaha žyćcia Biełarusaŭ.

Polskuju moładź treba padzialić na dźvie hrupy. Pieršaja, heta tyja, katoryja razumiejuć dobra, čym jość žyćcio narodu biez svajho haspadarstva, a pieradusim znajuć dobra historyju baraćby za svabodu svaje baćkaŭščyny. Dla našaha niaščaścia, hetkich — kali možna skazać — śviedamych Palakoŭ, jość mała.

Druhaja hrupa, heta achviary „endecyi"—zdeheneravanaja šlachta,—katoryja siabie ŭvažajuć za budaŭničych polskaj budučyni. Hetyja „siejbity zachodniaj kultury" iduć „falanhaj" bić šyby ŭ žydoŭskich kramach, a tym samym dajuć paśviedčańnie ab svaim duchovym uzhadavańni. Polšč užo mieła vielmi mnoha hetkich „budaŭničych" u XVII i XVIII stahodździ, katoryja zbudavali joj... ale pałon.

Da kožnaj prajavy biełaruskaha kulturnaha žyćcia moładź polskaja, z pieršaj hrupy, adnosicca z pačućciom spahady dla našaha zmahańnia. Druhija zatoje, mienš śviedamyja u spravach sacyjalnych i nacyjanalnych, najmienšy ruch biełaruskaj ruki nazyvajuć kamunizmam. Biełarusy ŭ aśviatleńni endekaŭ i ich svajakoŭ „oeneraŭcaŭ"—heta „kamunisty". Bo jak-ža ŭ polskim haspadarstvie chto inšy moža damahacca rodnaha słova ŭ škołach? Dy chto moža havaryć ab aśviecie vioski i ciomnaha biełaruskaha narodu?! Jany, ahułam, nia chočuć pryznavać biełaruskaha narodu, uvažajučy jaho nižejšym i matarjałam dziela palanizacyi, zabyvajučysia, što movaj hetaha biełaruskaha narodu doŭhi čas havaryli polskija karali, i što naš kraj daŭ polskaj litaratury Mickieviča, a taksama Kaściuŝku, Maniuŝku, Piłsudzkaha i inš. vialikich dziejačoŭ.

Adnosiny maładych Palakoŭ da nas Biełarusaŭ musili-b być šmat prychilniejšyja, kab moładź polskaja zirnuła na supolnyja bačyny historyi. U stalicy Polščy nas dobra nia znajuć, nia znajuć našaj kultury i movy, i nie biaruć pad uvahu taho, što Biełarusy adyhrali i adyhryvajuć vializarnuju rolu ŭ kulturnym žyćci Polščy. Hetym samym, jasna, Palaki adpichajuć ad siabie Biełarusaŭ.

Varšava, 24.X.37. **Hryhor Niejčyn**

# Što čuvać?

Dzień abvieščańnia niezaležnaści **Polščy**—11 listapada—sioleta byŭ śviatkavany asabliva ŭračysta. Roźnica sioletniaha śviatkavańnia ad min. hadoŭ była pieradusim u tym, što sioleta da ŭdziełu ŭ aficyjalnych pachodach i manifestacyjach byli zaprošanyja nia tolki arhanizacyi moładzi sanacyjnaje, ale taksama i arhanizacyi moładzi z łahieru apazycyjnaha, jak „Wici", „TUR" i inš., katoryja zaprosiny pryniali i ŭ śviatkavańni masava brali ŭdzieł. — 13.XI. Prezydent praf. I. Maścicki pryniaŭ delehacyju PPS, jakaja ŭručyła jamu memoryjał u spravie sučasnaha palityčnaha pałažeńnia Polščy, a tak-ža pakazała na patrebu źmieny vybarnaha zakonu i raspisańnia novych vybaraŭ u Sojm i Senat. Hutarki Prezydenta z delehacyjaj tryvali kala dvuch hadzin. Na asnovie hetaha vilenskaja hazeta „Słowo" piša, što ŭ Polščy „vahadła pierasunułasia na levo"... Miž inšym i OZN idzie ŭžo byccam na ŭstupki sanacyjnaj levicy, raniej-ža jon jšoŭ na prava...

7-ha listapada **SSSR** śviatkavaŭ 20-ja ŭhodki revalucyi ŭ Rasiei i svaje ŭłady. Ładžanyja byli vialikija manifestacyi. Zahranica adnak nie na manifestacyi źviartaje ŭvahu, a na toje, što tam biezkaniečna adbyvajucca aryšty i razstreły. Jak piša „Rabotnik", za m-c kastryčnik sioleta na cełaj terytoryi SSSR razstralana 800 asob — h. zv. „vorahaŭ narodu" i mima hetaha „čystka" nie słabnie...

Prociŭ-kamunistyčny front **Niamieččyny i Italii** mocna ŭzmacavaŭsia. Da jaho ŭžo aficyjalna prystupiła Japonija, katoraja na pačatku listapada ŭ Rymie padpisała supolny z Niamieččynaj i Italijaj antykaminternaŭski dahavor.

**Kanferencyja 9-ci haspadarstvaŭ** u Brukseli vyskazałasia suproć Japonii, adnačasna-ž zaklikała jaje ŭ najbližejšym časie pahadzicca z Kitajem. Fakt hety adnak mała zdajecca na Japoniju padzieić. Jana zaniała ŭžo Šanchaj i dalej pasoŭvajecca, choć kitajcy baroniacca niazvyčajna ŭporysta, mužna. Japonija na nikoha nie źviartaje uvahi, tymbolš, što **Anhlija**, katoraja na kanferencyi 9-ci haspadarstvaŭ adyhryvała vialikuju rolu, zaŭsiody pilnuje tolki svaje skury, svaich vyłučna intaresaŭ i vilaje chvastom. I jana ciapier užo imkniecca naviazać pryjaznyja adnosiny z **Niamieččynaj** — pryjacielkaj Japonii, i dziela hetaha ŭ Niamieččynu pajedzie viedamy anhlijski palityk lord Halifax. Pry tym Anhlija naviazała ŭžo dyplamatyčnyja znosiny i parazumiełasia **z hien. Frankam** u Hišpanii, katoraha nie pryznała i katory dzieić pad asablivaj apiekaj Italii.

Anhlija źmiennaj palitykaj narabiła pieradusim mnoha kłopataŭ **Francyi**—svajej sajuźnicy, jakaja viadzieć palityku bolš prostuju. I tak napr. za toje, što Francyja dasiul nia choča pryznać italijanskaha karala karalom Abisynii, a taksama, što nie naviazvaje, tak jak Anhlija, znosinaŭ z hien. Frankam, vielmi papsavalisia adnosiny da jaje Italii, katoraj ahienty padniali bunt u francuskich kalonijach u Afrycy.

Araby **ŭ Palestynie** zajavili, što buduć zmahacca da kanca, pakul nie pieramohuć. Ichni niezaležnicki ruch uzmacoŭvajecca. Słaŭny-ž i vajaŭničy karol Arabii Ibn-Saud choča abjavić siabie karalom usich arabskich plamionaŭ i abjadnać ich u vializarnaje arabskaje haspadarstva.

Na **hišpanskich frontach** za apošnija dva tydni nijakich pavažniejšych źmienaŭ nia było. *J.N.*

# Ab etycy i kulturnaści ks. V. Hadleŭskaha

Pastajannyja i niasumlennyja napadki „Беларускага Фронту" na „Šlach Moładzi", asabliva ŭ apošnim jaho numary, zmušajuć nas jašče raz vystupić u svajej ułasnaj abaronie.

Svarki, hryźnia, a tym bolš pisanina, jakaja pachnie danosam, u ciapierašnim ciažkim biełaruskim žyćci patrebnyja jak kašal u chvarobie. Čamuści adnak pravodzić heta ŭvaŭsiu „Беларускі Фронт", redaktaram jakoha jość ks. V. Hadleŭski. Apošnim časam „Biełaruski Front" źviarnuŭ svajo vastryjo pieradusim suproć samatužnickaha časapisu biełaruskaje moładzi „Šlach Moładzi". Ale z № 12 „Bieł. Frontu" vidać, što jamu mała „Šl. Moładzi", bo źmiašaŭ jon nas užo z usimi palitykami z Zavalnaj 1. Heta śviedčyć ab tym, što choča jon svaje napady razšyrać. Tymčasam my, adkazvajučy „B.Frontu", zajmiemsia nižej apošniaj dziejnaściaj tolki ks. V. Hadleŭskaha, vyłučajučy jaho z jahonaje redakcyjnaje kalehii, katoraja nia maje rašajučaha ŭpłyvu na „Bieł. Front".

Voś-ža, ks. V. Hadleŭski pačaŭ napadać na „Šlach Moładzi" jašče ŭ 1936 h. I tady jon zusim biezpadstaŭna, z pryčyny čysta infarmacyjnaje i niavinnaje viestki nadrukavanaje ŭ „Šlachu Moładzi" ab vystupleńni ksiandza Leobio ŭ spravie hišpanskaje chatniaje vajny, staviŭ nas pry staronnikach „narodnaha frontu", zakidaŭ, što my ŭrad Largo Cabalero nazvali chryścijanskim, — čaho nia było nikoli, a hetym samym staviŭ nas razam z kamunistami i, takim čynam, padvodziŭ pad palicyjny ŭdar. Nie ŭdałosia adnak. I heta pieršaja kraska ab etycy i kulturnaści ks. V. Hadleŭskaha.

Prajšło niekalki miesiacaŭ i „Šl. Mł.", z pryčyny viedamaha vystupleńnia hien. Galicy ab Biełarusach, drukuje artykuł „Z błudnaha koła polska-biełaruskich adnosinaŭ". U artykule hetym adznačajem tak-ža vystupleńnie „Kurjera Powszechnego", jaki ŭ henym časie drukavaŭ artykuł ab patrebie biełaruskaha liceju i vysunuŭ na svaich bačynach, publična, kankretnuju prapanovu stvareńnia hramadzkaha polska-biełaruska-litoŭskaha kamitetu, katory zajmaŭsia-b spravaj uładžańnia supolnych adnosinaŭ,— a paśla čamuści bolš ab hetym pierastaŭ pisać. — Za heny artykuł ab polska-biełaruskich adnosinach „Šlach Moładzi" byŭ **skanfiskavany...** Tymčasam ks. V. Hadleŭski na asnovie jaho, ničoha nie ŭspaminajučy ab kanfiskacie, vypisvaje roznyja niabylicy ab našych byccam hutarkach i niaviedamych nam palityčnych planach i kombinacyjach z polskim „Kurjeram Powszechnym", dy vyrazna pačaŭ sugeravać, padsuvać nam čužuju arjentacyju. — Heta druhaja krasačka ab etycy i kulturnaści ks. V. Hadleŭskaha.

Ciapier, u № 12 „B. Frontu" z dnia 5.XI.1937 h., ks. V. Hadleŭski źmiaściŭ „piśmo" z vioski „Bujby", z Aśmianščyny. Ale jakoje piśmo? — Piśmo **ananimnaje...** i vielmi padazronaha pachodžańnia..., bo navat i vioski takoj u Aśmianščynie niama... — Čamu źmiaściŭ heta piśmo ks. V. Hadleŭski, choć u im ničoha dobraha, pachvalnaha i dla jahonaj raboty niama? Jasna, tamu tolki, što ananimnaje piśmo vystupaje suproć „Šlachu Moładzi", za toje pieradusim, što „Šl. Moł." źmiaściŭ zaciemku ab knižcy Fr. Alachnoviča „У капцюрох Г.П.У."... Heta značyć, što ks. V. Hadleŭski **nie pierabiraje sposabaŭ** u vystupleńniach svaich suproć tych, što nia jduć jahonaj darohaj i pad jaho pavadyrstvam. Dla jaho vidać jość padstavaj viedamaja deviza: *„meta apraŭdyvaje sposaby"*... I he-

ta jość treciaja kraska ab etycy i kulturnaści ks. V. Hadleŭskaha.

Dalej, u tym-ža № 12 „B. Frontu" znachodzim zaciemku ks. Hadleŭskaha ab pamiatniku Jadvihina Š., jaki jamu padabajecca, ale—kaža— lepš było-b, kab pamiatnik stajaŭ nie na betonnaj padstavie, a na kamieni.—Voś ža, ks. Hadleŭski, ničoha viečnaha niama, i kamień psujecca pad dziejańniem atmasferyčnym, choć jon daloka daražejšy ad betonu. A my jašče navat za beton majem doŭh. A ciapier zapytajem: kolki ks. mgr. V. Hadleŭski achviaravaŭ na hety pamiatnik? — Na pamiatnik Jadvihina Š. davali achviary biełarusy roznych kirunkaŭ i pahladaŭ, davała intelihiencyja i sialanie, davali studenty, vučni, a navat i biednyja biezrabotnyja biełarusy — chto kolki moh, a **ks. Hadleŭski nia daŭ ani hraša!...**

Chiba davoli budzie, kab choć krychu kinuć śviatła na sučasnyja pastupki ks. V. Hadleŭskaha, na jahonuju kulturnaść i etyku, i na chvarablivuju maniju, jakoj jon abciažany ŭ praśledavańni nas.

*j. n.*

## Cikavaja dyskusija

13.XI sioleta, jak pišam ab hetym u chronicy, u Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni, stud. A. Zasim pračytaŭ lekcyju na temu: „Akt 25-ha sakavika 1918 hodu ŭ histaryčnym aśviatleńni". Paśla lekcyi adbyłasia žyvaja i rečovaja dyskusija. Na asnovie lekcyi i dyskusii možna ścvierdzić sapraŭdy paciešajučy prajaŭ, što biełaruskaja studenckaja moładź ćviorda stanovicca na hrunt Vialikaha i demakratyčnaha Aktu 25-ha sakavika 1918 h., jakim Biełaruś była abvieščana volnaj i niezaležnaj Narodnaj Respublikaj.

Treba pry tym adciemić, što jak lektar, tak i ŭčaśniki dyskusii ścviardžali: 1. što ks. V. Hadleŭski ŭ 1918 h. z viedamym abšarnikam R. Skirmuntam byli inicyjatarami vysyłki telehramy da niamieckaha kajzera (cara) Vilhelma II, prosiačy jaho zachavać Biełaruś u łučnaści z Niamieckaj Imperyjaj i hetym samym raźbivali pracu Biełarusaŭ nad realizacyjaj Aktu 25.III.18; i 2. što ks. Hadleŭski ŭ „Biel. Froncie" kansekventna pravodzie svaju pracu i ciapier napadajučy na tyja biełaruskija hrupy, jakija sapraŭdy stajać na hruncie Aktu 25-ha sakavika 1918 h.

Charakterna, što baraniŭ ks. V. Hadleŭskaha tolki **adzin** stud. V. Papucevič. Taksama tolki adzin student probavaŭ dakazać, što Akt 25.III.1918 nie vyražaŭ imknieńniaŭ biełaruskaha narodu i šukaŭ čahoś bolš radykalnaha.

# Sudovy praces litoŭskaha dziejača ŭ Vilni

5 i 6 listapada sioleta Vilenski Akružny Sud razhladaŭ spravu staršyni b. Litoŭskaha Nacyjanalnaha Kamitetu ŭ Vilni hram. K. Stašysa, abvinavačanaha za toje, što jon byccam atrymlivaŭ z zahranicy vialikija sumy hrošaŭ i razdavaŭ ich miascovym litoŭskim arhanizacyjam, što pravodziŭ prociŭhaspadarstviennuju pracu, a taksama, što z daručeńnia litoŭskaha konsula ŭ Dźvinsku vypłačvaŭ hrošy litoŭcam, jakija žyvuć u Polšča i hetym zrabiŭ prastupak suproć devizovaha zakonu (ab abarocie hrašmi ŭ čužoj valucie). Sud usie palityčnyja abvinavačańni adkinuŭ, jak nie dakazanyja, a prysudam abvieščanym 9.XI zasudziŭ K. Stašysa na 1 hod vastrohu i 10,000 zł. štrafu za dakananyja byccam prastupki suproć devizavaha zakonu. Baranili padsudnaha čatyry advakaty i ad hetaha prysudu adkliknulisia ŭ Apelacyjny Sud. Hram. K. Stašys pierad sudom byŭ aryštavany i prasiadzieŭ u vastrozie blizu 4 miesiacy, ciapier-ža zvolnieny pad załoh 10,000 zł.

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Арганізацыйны сход Саюзу Беларускае Моладзі. Справа стварэньня легальнае арганізацыі беларускае моладзі прыбірае ўжо канкрэтныя формы. Статут ужо апрацаваны і 21-га лістапада сёлета ў залі БНА ў Вільні (Завальная 1) мае адбыцца арганізацыйны сход, на якім будзе прачытаны п аект статуту, прадыскутаваны, а пасьля выбраны арганізацыйны камітэт, каторы займецца справай легалізацыі Саюзу Беларускае Моладзі. Пачатак сходу а гадзіне 17-тай. Уход вольны.

— Падзяка. Беларускі Нацыянальны Камітэт, як ведама, выслаў на рукі прэзыдэнта Чэхаславацкае рэспублікі спачуваньне ўсяму чэскаму Народу з прычыны сьмерці Прэзыдэнта-Асвабадзіцеля М. Масарыка. Вось-жа анагдай Бел. Нац. К-т атрымаў ад Прэзыдэнта Бэнэша пісьменную падзяку.

– Беларус атрымаў музычную нагароду места Варшавы. Шырока ведамы ў Польшчы кампазытар праф. Станіслаў Казура — беларус, — які шмат працуе на музычнай ніве, 8.XI.37 атрымаў музычную нагароду м. Варшавы за пашыраньне культу народнай песьні. Праф. Ст. Казура, між іншым, прыгожа згарманізаваў некалькі беларускіх народных песьняў. Жыве праф. Ст. Казура стала ў Варшаве, там таксама выйшла некалькі ягоных школьных падручнікаў аб сьпеве. У мінулым годзе праф. Ст. Казура напісаў опэру „Powrót", аснутую на беларускіх народных мэлёдыях.

— Справа арганізацыі Бел. Культурнага Т-ва ў Варшаве спынена. У мін. годзе, як мы ўжо пісалі, беларусы, каторыя стала жывуць у Варшаве, пачалі стараньні стварыць там Беларускае Культурнае Таварыства. Ня гледзячы аднак на тое, што стараньні гэтыя падтрымлівалі прафэсары Ст. Казура, Бр. Руткоўскі і іншыя выдатныя асобы, Камісарыят Ураду м. Варшавы статуту гэнага Таварыства не зацьвердзіў, дзеля таго, што быццам Бел. Таварыства не адказвае грамадзкім карысьцям. Арганізатары пасьля першае няўдачы рук не апусьцілі і адклікаліся ў Міністэрства Нутраных Спраў, але і адтуль на днях прыйшоў адмоўны адказ з тымі самымі матывамі, што і ад Камісарыяту Ураду. Такім чынам прыгожыя стараньні варшаўскіх беларусаў стварыць сваю арганізацыю далей спынены, і ў Варшаве, дзе ўсе народнасьці бадай маюць свае арганізацыі, беларусы пакульшто гэтага пазбаўлены.

— „Chryścijanskaja Dumka" тыднёвікам. „Chr. Dumka", якая цяпер выходзіць два разы ў месяц ад новага 1938 г. мае выходзіць раз у тыдзень. Часапіс гэты апошнім часам ажывіўся і зьмяшчае цікавыя артыкулы і весткі. Адрас „Chr. D.": Вільня, Завальная 1.

— Тарашкевіч у Іркуцку. „Chryścijanskaja Dumka" ў № 19 з дня 5.XI.37 падае, што ведамага беларускага дзеяча, аўтара беларускае граматыкі, павадыра „Грамады", б. пасла Бр. Тарашкевіча бальшавікі саслалі ў далёкі Сібір, у Іркуцк над Байкалам. — Аказваецца, як бачым, што не знайшлося яму месца ня толькі ў Савецкай Беларусі, але нават і ў Маскве і ён, як „вораг народу" сасланы далёка ад роднае старонкі. (Тарашкевіча адразу пасьля вымены на Аляхновіча завязьлі пад Маскву і там яму толькі дазволена было жыць). — „Помнім усе добра — піша „Chr. D." — як ён на сваім судовым працэсе ў Вільні цьвердзіў, што ў Савецкай Беларусі будуецца Беларускі Народны Дом. Тымчасам у гэным Беларускім Доме няма месца Беларусам". Сумна, але праўдзіва...

— Паседжаньне Рады Бел. „Зьвязу". 17.X сёл. у Вільні адбылося паседжаньне Рады „Беларускага Гаспадарскага Зьвязу" — адзінай цяпер беларускай культурна-асьветнай арганізацыі. На паседжаньні гэтым быў перавыбраны ўрад „Зьвязу", у склад якога ўвайшлі: др. Я. Станкевіч (старшыня), В. Казлоўскі (з Ашмяны), Ал. Баранавіч, др. Ст. Станкевіч і М. Смаршчок. Апрача таго пастаноўлена арганізаваць гурток „Зьвязу" ў Вільні, пабудзіць да большай дзейнасьці раней заложаныя гурткі на правінцыі і закладаць новыя. Адрас „Зьвязу": Вільня, Астрабрамская 1—20.

— У беларускіх студэнтаў. 30.X сёл. у Бел. Студ. Саюзе ў Вільні адбылася запазнаўчая гарбатка.

6.XI там-жа быў наладжаны дыскусыйны вечар над рэфэратам студ. Шчорса, прачытаным у БСС 23.X.37. Характэрна, што ў дыскусіі студ. Шчорс заявіў, што ён дэмакрат, хоць рэфэрат ягоны шмат у чым быў супярэчны з ідэяй дэмакрацыі. Калі няма тут злой волі, то і гэта ўжо добра.

7.XI у Т-ве Прыяц. Беларусаведы пры віл. унівэрсытэце грам. М. Пяцюкевіч прачытаў лекцыю аб гісторыі беларускай кніжкі.

13.XI у БСС студ. А. Засім прачытаў рэфэрат на тэму: „Акт 25.III.1918 у гістарычным асьвятленьні".

— U 1935 hodzie ŭ Polščy było zasudžana za roznyja prastupki 622.051 asob, h. zn. što bolš-mienš kožny 50 čałaviek źjaŭlaŭsia prastupnikam. Viaźniaŭ u henym hodzie było 55,336. U praciahu 1936 h. kolkaść prastupnikaŭ viaźniaŭ uzrasła i ŭ studni 1937 hodu było ŭžo 59,496. Viaźniaŭ pakaranych da 6 miesiacaŭ było 14,307, ad 6 m. da 1 hodu—10,376, ad 1 da 3 h.,—9,222, vyšej 3 h.—8,555, na bieztermінovy vastroh — 639 asob. Dziela pamiaščeńnia hetkaj vialikaj kolkaści viaźniaŭ jość 333 vastrohaŭ.

— U m-cy kastryčniku sioleta ŭ Varšavie adbyŭsia źjezd sanacyjnaha „Związku Młodzieży Ludowej", na čale katoraha stajaŭ pasoł Palakievič. „Związek" hety pieratvaryŭsia ciapier u viaskovy sektar ozonaŭskaha „Związku Młodej Polski".

— U času apošniaha buntu Abisyncaŭ praciŭ Italii zabita było 40 italijanskich aficeraŭ, nia ličačy žaŭnieraŭ. Italijancam udałosia złavić abisynskaha kniazia rasa Chajłu-Ciebiedu, jakoha rasstralali. Niadaŭna ŭ Rymie Italijancy vystavili vializarny abisynski pomnik-obelisk, katory za-



brali jany z abisynskaha śviatoha miesta Aksum i pryviaźli ŭ Italiju. Źnimku hetaha obeliska padajom vyšej.

— Ad m-ca studnia da traŭnia ŭ min. hodzie, u Polskim Haspadarstvie pradana tytunu 5,054 tony, sioleta-ž u hetym času tolki 4,987 tonaŭ i to horšych sartoŭ (hatunkaŭ). Najbolš tytunu raschodzicca ŭ centralnych, paŭdzionnych, i, nažal, u našych uschodnich vajavodztvach.

— Słaŭny francuski daśledčyk pramieńniaŭ (kasulaŭ) Roentgena praf. Vaillant, jaki całaje žyćcio pracavaŭ nad tym, kab znajści sposaby zmahańnia z strašnaj chvarobaj raka, daśledžvajučy dziejańnie kasulaŭ Roentgena na cieła čałavieka, niadaŭna paddaŭsia čatyrnaccataj operacyi. Jon, šukajučy ratunku dla ludziej, naležna nie zabiaśpiečyŭsia ad dziejańnia kasulaŭ Roentgena i 20 hod tamu zaraziŭsia. Tady adniali jamu 2 palcy na pravaj ruce. Kalehi radzili jamu pierarvać dalejšuju svaju pracu. Adnak praf. Vaillant nie zhadziŭsia i dalej pracavaŭ. U druhoj aperacyi adniali jamu całuju ruku. U treciaj — plačo. Ciapier praf. Vaillant źjaŭlajecca zusim invalidam, biaz nivodnaj ruki. A ŭ času čatyrnaccataje aperacyi zdyjmali jamu narašć na brusie, jakaja paŭstała pad dziejańniem kasulaŭ Roentgena. Aperacyja ŭdałasia i 60-ci hadovy prafesar žyvie dalej u domie vajennych invalidaŭ. U historyi čałaviectva zapisaŭsia jon, jak zmahar.

— Słaŭny aŭstryjacki praf. Gerlach paviedamiŭ na bačynach presy, što u 700 vypadkach adkryŭ zarazku raka ŭ adnoj i toj samaj asnovie. Heta značna moža pamahčy ŭ lačeńni hetaj chvaroby. Adnak pakul-što dasiahnieńni praf. Gerlacha majuć značeńnie tolki teoretyčnaje.

— Hazety pišuć, što źmieny kalendara, jakaja mieła nastupić na pačatku 1940 hodu, nia budzie, bo nie zhadzilisia na heta Katalicki Kaścioł i žyd. rabiny.

—U Rumynii pavodle apošnich statystyčnych dadzienych jość ciapier 19 z pałovaju milijonaŭ žycharoŭ, z jakich 16 milijonaŭ zajmajecca ziemlarobstvam.

— Italija naličaje ciapier 43 miljony 444 tysiačy žycharoŭ.

— Viedamy vučony daśledčyk stratasfery praf. Pikkar, jaki badaj pieršy pačaŭ lotać u padniebnuju vyšyniu, za chmary, ciapier maje zaniacca daśledžvańniem morskaje hłybini i dumaje, što jamu ŭdasca apuścicca na Cichim Akijanie pad vadu na hłybiniu 9,000 metraŭ (9 kilametraŭ). Dasiul tolki amerykanskamu vučonamu dr. Bib'u ŭdałosia apuścicca na hłybiniu 923 metraŭ.

— 9.XI sioł. pamior vialiki anhlijski dziejač i demakrat Ramsey Macdonald, jaki byŭ try razy premjeram Anhlii. R. Macdonald pachodziŭ z biednaj siamji, da vysokaha stanovišča dajšoŭ svajej samatužnickaj hramadzkaj pracaj.

## PRAKTYČNYJA RADY

**Jak vykarystać kanaplanuju ciermiać.** Kanaplanuju ciermiać (kastrycu), jakuju ŭ haspadarcy niaraz vysypajuć na darohu, možna puścić na padścilku ŭ kuratniku. Ciermiać heta vielmi dobra ŭciahvaje ŭ siabie adpady ad kurej, niepryjemny zapach, daje ciapło, a aprača taho nistožyć i prypyniaje raspłod kurynych vašej, jakija nia lubiać zapachu kanapiel.

**Jak paić žyviołu.** Arhanizm kania vymahaje na 1 častku suchoha kormu 3 častki vady. Kali koń dastaje 12 klh. suchoj pašy, to jamu treba dać 2,5 viadry vady. Rahataja žyvioła patrabuje adnosna bolš vady, pry čym karova bolš ad vała. Karova dastaje 5 častak vady na 1 častku suchoj pašy. Čym bolš paša (korm) maje ŭ sabie vady, tym mienšaj jość patreba samoj vady. Pry zialonaj pašy karovy mała pjuć. Aviečki patrabujuć vady mała, badaj dva razy mienš, jak suchoha kormu.

## Пісьмо ў рэдакцыю

Паважаны Спадару Рэдактару,
не адмоўцеся калі ласка надрукаваць у Вашым паважаным часапісе „Шлях Моладзі" квіта з ахвяраў, даных на выданьне кніжкі „Як правільна гаварыць і чытаць пабеларуску. Пастановы Зборкаў Чысьціні Беларускае Мовы".

Ахвяры далі мне на менаваную кніжку гэткія Беларусы:

Кс. Др. Ст. Глякоўскі—10 зл., Інж. Ант. Трэпка — 5 зл., Эдв. Будзька — 3 зл., В. Грышкевіч, Л. Дубейкаўскі, В. Кавалевіч, М. Пяцюкевіч, В. Русачанка, М. Станкевіч, др. Я. Станкевіч—па 2 зл., кс. Чарняк 1 зл. 50 гр., кс. Яз. Гэрмановіч, Я. Жэмла, Ант. Луцкевіч, Ул. Жэмла, П. Сяргіевіч, Я. Хворaст, М. Юзьвюк, Юл. Юневіч — па 1 зл.; сьвяшч Багаткевіч, М. Т., сьвяшч. Н. Быск, В. Тумаш — па 50 гр.,—разам 43 зл. 50 гр.

Усім, што далі ахвяры, ад імені Зборкаў Чысьц. Бел. Мовы — вялікі дзякуй.

Апрача таго на выданьне вышменаванае кніжкі пайшло 10 зл., прагуляных у заклад паміж двума ўчасьнікамі Зборкаў.

Выданьне кніжкі каштавала балей, як забрана грошаў. Дык просім усіх пасьпяшыць із абяцанай ахвяраю.

Усіх, што далі ахвяры, просім дастаць вышменаваную кніжку ў Кнігарні „Надзея", Вільня, Астрабрамская 1.

Др. Я. Станкевіч.

У Вільні, 30.X.37.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Paŭłu R-ku: Zrabili Vy vialiki postup i kali dalej budziecie hetak pracavać, to mahčyma, što zmožacie pisać zusim dobra, pakulšto adnak vieršy da druku nie padchodziać.

Ж. Карэспандэнцыю атрымалі, надрукуем у наступным нумары.

B. K—m i a c y: Mataryjały atrymali, budziem staracca źmiaścić. Pisulku pie radali. Za pašyreńnie „Šl. Mol." dziakujem i pastarajemsia Vam adudziačycca.

Язэпу Калядзе: Расказу аб канцэрце Пракапені, а таксама і веошу з прычын цэнзуральных, нажаль, ня можам надрукаваць. Карэспандэнцыю надрукуем у наступным нумары.

Г. Нейчыму: Першы Ваш артыкул, як бачыце, ужо друкуем, другі пойдзе ў наступным нумары. Дзякуем за памяць і просім далей не забываць.

Р. Вайцелёнку: Патрэбных Вам лекцыяў, нажаль, хіба ніхто ня зможа выслаць. Тое аднак, што Вам трэба, можаце знайсьці ў стылістыцы, граматыцы і правапісе, якія радзім Вам купіць. Адзін Ваш верш друкуем. Новапрысланыя кульгаюць, але будзем старацца папраўляць і ў меру магчымасьці друкаваць. У вершах не зашкодзіла-б больш оптымізму. Проза Вам здаецца лепш удаецца. За пашыраньне „Шляху Мол." шчыра дзякуем.

Т. Хвайніцкаму: За прывітаньне шчыра дзякуем. Вершы, нажаль, слабыя і да друку не падходзяць. Радзім больш чытаць беларускіх кніжак і працаваць над сабой.

Казлаўцу: Карэспандэнцыю надрукуем у наступным нумары.

Bursie Ziem Półn. Wschod. Sprastawańnie nadrukujem u nastupnym numary.

*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*
*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК